*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 45(379)** **18 ЛІСТАПАДА 1998 г.**

## ТБМ вяртаецца ў сваю сядзібу

**Пасля шматлікіх сустрэч і перамоў якія вяло кіраўніцтва ТБМ з раённымі, гарадскімі і рэспубліканскімі ўладамі была дасягнута дамоўленнасць аб вяртанні сядзібы па адрасу вул. Румянцава 13 і зніжэнні памераў пазык і штрафаў з 550 млн. рублёў да 240 млн. рублёў.**

**Сумму ў памеры 240 млн.рублёў мы павінны выплаціць МРЭА Партызанскага р-на Менска да 1 студзеня 1999 года. На днях мы атрымалі ключ ад сваёй сядзібы і ў панядзелак, 16 лістапада збіраемся туды вярнуцца.**

**Такім чынам, наша змаганне дало першы плён. Мы і надалей будзем інфармаваць чытачоў "Нашага слова" аб сітуацыі з галоўным офісам ТБМ.**

**Першы намеснік Старшыні ТБМ.**

**Алег Трусаў.**

## Сойм БНФ "Адраджэньне"

15 лістапада 1998 года ў Менску адбыўся чарговы сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм разгледзеў пытанне "Пра магчымасць кансалідацыі беларускіх палітычных сілаў". Не гледзячы на разбег думак, сойм усё-такі заявіў, "што існуе неабходнасць і магчымасць кансалідацыі антыдыктатарскіх, незалежніцкіх сілаў Беларусі на грунце канкрэтных дзеянняў"

## 3 Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека
## (Варшава, 14-16 кастрычніка 1998г)
## Становішча з правамі чалавека на Беларусі

3 Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, удзельнікамі якой з'яўляюцца вядомыя грамадскія дзеячы, праваабаронцы, палітыкі, вучоныя, прадстаўнікі духавенства, ахвяры палітычных рэпрэсій з розных краін свету:

з трывогай адзначаючы пагаршэнне стану з правамі чалавека на Беларусі і нежаданне беларускіх уладаў забяспечыць павагу правоў чалавека і асноўных свабодаў у адпаведнасці з прынцыпамі Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, 50-годдзя якой у гэтым годзе адзначаецца ва ўсім свеце;

адлюстроўваючы занепакоенасць тым,

- што беларускія ўлады працягваюць выстаўляць пад ганенні незалежную прэсу і журналістаў, імкнучыся цалкам устанавіць манаполію на сродкі масавай інфармацыі;
- што законным шляхам выбраныя дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі па-ранейшаму пазбаўлены сваіх правоў, найперш права прадстаўляць сваіх выбаршчыкаў;
- што ў беларускіх турмах утрымліваюць палітвязняў;
- што ў Беларусі адсутнічае незалежная судовая сістэма;
- што ў краіне ўціскаюцца эканамічныя свабоды і прыватная ініцыятыва;
- што парушаюцца правы прафсаюзаў;
- што ў краіне створана сістэма жорсткага эканамічнага і фінансавага ўціскання асноўных правоў і свабод грамадзян, крымінальнага і адміністратыўнага пераследу за рэалізацыю гэтых правоў;
- што іншадумцы пазбаўлены магчымасці працаўладкавацца;
- што расце колькасць палітычных уцекачоў з Беларусі;

**выказваючы трывогу, што на Беларусі практычна не рэалізуецца права выбару мовы навучання, тым самым ствараецца перашкоды дзеля развіцця беларускай мовы і культуры;**

усведамляючы небяспеку антыдэмакратычнага развіцця Беларусі дзеля міжнародных высілкаў па ахове правоў чалавека і дзеля міжнародных зносінаў цалкам;

1. Заклікае прэзідэнта і ўрад прытрымлівацца абавязацельстваў Беларусі, якія яна нясе ў адпаведнасці з міжнародным пагадненнем у вобласці правоў чалавека, у прыватнасці Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, Міжнародным пактам аб сацыяльных, эканамічных і культурных правах, дакументамі АБСЕ, найперш Венскай дэкларацыяй і Праграмай дзеяння;

2. Заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць палітычных вязняў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі А. Клімава, З.Кудзінава, а таксама А.Шыдлоўскага, Г.Кійко, В.Лыско, В.Плешчанку;

3. Выказвае сваю салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі Беларусі, грамадскімі рухамі і арганізацыямі, якія адстойваюць прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека.

**Варшава, кастрычнік 1998г.**

## Створаны Нацыянальны грамадскі аргкамітэт

11 лістапада ў Менску быў створаны нацыянальны грамадскі камітэт, **"Беларусь — 2000 гадоў"**.

Ініцыятарам гэтай акцыі выступіла Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" якое 18 чэрвеня 1998 года прыняло адпаведны зварот да ўсіх беларусаў. Цалкам тэкст "Звароту" быў надрукаваны 1 верасня 1998 года ў газеце "Народная воля".

У ім між іншым гаворыцца:

***"Набліжаецца да канца другое тысячагоддзе. Завяршэнне такой гістарычнай эпохі мае асаблівае значэнне ў развіцці Чалавецтва. Многія народы, дзяржавы імкнуцца зараз падсумаваць дасягненні і страты, вызначыць сэнс свайго існавання ў свеце. Толькі невялікай колькасці пакаленняў даравана лёсам жыць на мяжы тысячагоддзяў. Менавіта нам і належыць выканаць свой абавязак перад нашчадкамі, здолець асэнсаваць шлях і перакінуць мост у новае тысячагоддзе.***

***Для беларускага народа мінулыя дзве тысячы гадоў былі плённым, гераічным і драматычным часам. На працягу гэтага перыяду сфармаваўся беларускі этнас, узнікла і атрымала развіццё наша дзяржаўнасць...***

***...будаўніцтва і захаванне сваёй дзяржаўнасці — галоўнае дасягненне беларусаў на гістарычным шляху. Далёка не ўсе народы на Зямлі здолелі стварыць і захаваць свае дзяржавы. Будзем памятаць, што ўласная дзяржаўнасць з'яўляецца найвялікшым здабыткам і самай высокай каштоўнасцю для любой нацыі ў свеце...***

***...Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", выступае з ініцыятывай адзначыць у агульнанацыянальным маштабе завяршэнне двухтысячагоддзя і наступленне новага гістарычнага этапу. Дзеля дастойнага ўшанавання дасягненняў беларускага народа за прйдзены перыяд прапануем ажыццявіць спецыяльную Праграму мерапрыемстваў, скіраваных на замацаванне нашых здабыткаў у галіне гісторыі, культуры, навукі, на асэнсаванне месца беларускай нацыі ў сусветнай цывілізацыі і вызначэнне далейшага шляху."***

Змест Праграмы ўключае мерапрыемствы, якія будуць садзейнічаць патрыятычнаму выхаванню беларускага народа, павышэнню аўтарытэта нашай краіны, як старажытнай дзяржавы ў Еўропе. Адной з важных мэтаў Праграмы з'яўляецца абазначэнне і стварэнне часткова або поўнасцю недастаючых сёння элементаў атрыбутыкі незалежнай краіны з багатай гісторыяй, такіх як аднаўленне гістарычных помнікаў, ушанаванне памяці выдатных дзяржаўных дзеячоў і г.д. У сувязі з гэтым рэалізацыя Праграмы можа быць разлічана на будучыню.

І вось у памяшканні музея беларускай дыяспары ў Скарынаўскім цэнтры сабраліся прадстаўнікі беларускай творчай і пісьменніцкай інтэлігенцыі, журналісты, палітыкі, навукоўцы і прадпрымальнікі. Пасля падрабязнага аналізу эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне і за яе межамі ўсе ўдзельнікі сустрэчы падтрымалі прапанову ЗБС "Бацькаўшчына" і ўтварылі нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванні 2000 гадовага юбілею хрысціянства на Беларускай зямлі, якое паспрыяла паступоваму набыццю беларусамі сваей дзяржаўнасці на працягу гэтага гістарычнага адрэзку часу.

Сярод 35 сяброў аргкамітэта вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Вольга Іпатава, Сяргей Панізнік і літаратуразнаўцы Міхась Біч, Адам Мальдзіс, Мікола Ермаловіч, Леанід Лойка, Яўген Сахута доктар юрыдычных навук Язэп Юхно, старшыня беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, мастак Мікола Купава.

Сустаршынямі абраныя акадэмік Радзім Гарэцкі і літаратар і драматург Алег Петрашкевіч. Адказным сакратаром камітэта аднагалосна абралі Ганну Сурмач. З ліку сяброў Аргкамітэта абраная працоўная група ў складзе 10 асобаў.

Аргкамітэт прыняў зварот да беларускага народа ў якім адзначаецца гістарычны шматвяковы шлях беларусаў да сваёй незалежнасці і заклік дастойна ўшанаваць 2000 г хрысціянства на еўрапейскім абшары.

*Алег Трусаў.*

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Не бацькі — дзяржава павінна вырашаць такія пытанні, як мова навучання і выхавання ў школах. Дзяржава і толькі дзяржава! Калі, зразумела, яна ёсць і намерана заставацца дзяржавай надалей. Дзяржава павінна думаць і клапаціцца аб тым, каб яе грамадзяне маглі свабодна спраўляцца з вытворчымі і іншымі грамадскімі абавязкамі, каб няведанне мовы не стала перашкодай для гэтага.

Ніл Гілевіч
Народная воля.
31.10.98г.

*... шавіністы імкнуцца пазбавіць беларусаў роднай мовы і ўласнай гісторыі. Страта народам галоўных рысаў нацыі непазбежна прыводзіць да асіміляцыі і далучэння яго да іншай дзяржавы.*

*Марат Гірко*
*Народная воля*
*8.11.98г.*

О, ўсемагутны божа, зрабі так, каб мы, сыны Беларусі, ніколі не пакідалі нашай, беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе! А таксама не пакінь, Божа, тых людзей, людзей, якія смуткуюць і тужаць па Радзіме сваёй, і асабліва тых, хто паддаваўся спакусам, што адводзяць ад веры ў Беларусь. Пашлі беларускаму народу сваіх слугак, якія набожным жыццём вялі б наш люд да лепшай долі, свядомага служэння Айчыне. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, аб чым прашу! Амінь.

Малітва за беларускую мову
Марыя Заяц
вучаніца 9-га класа
Народная воля 4.11.98г.

*Упэўнена, тыя дзеці, якіх бацькі пад уціскам ці дабраахвотна запісваюць у рускамоўныя класы, калі-небудзь папракнуць сваіх родных, што адарвалі іх духоўную пупавіну ад роднай зямлі. Без яе ж, як без маці ...*

*Зінаіда Мілешчанка*
*Народная воля 4.11.98г.*

## "Плынь" у студэнцкім руху

Пабачыў свет новы інфармацыйны бюлетэнь "Плынь". "Плынь" незалежнае інфармацыйнае выданне для моладзі. Нарадзілася ад шлюбу "Будзінаў" і Беларускага студэнцкага прафсаюза "Салідарнасць". Фармат А-4. Аб'ём 8 старонак. Правапіс тарашкевіца. Наклад 299 асобнікаў. Бюлетэнь цалкам беларускамоўны. Іншыя выхадныя звесткі не пададзены. Але ўступны артыкул пісала Крысціна Сідун, то трэба меркаваць, што менавіта яна знайходзіцца недзе бліза каля пасады рэдактара.

Між іншых у бюлетэні пададзены матэрыялы пра ўстаноўчы з'езд Беларускага Студэнцкага Прафсаюза "Салідарнасць", што адбыўся ў Менску 1-га жніўня 1998 года.


Плынь №1

# Газетнае двухмоўе: набыткі неістотныя, страты значныя

Існаванне такой з'явы, як газетнае двухмоўе, да канца яшчэ не асэнсавана. Не даследавана. Што яно дало нам, як грамадству? Як нацыі? Колькі яно будзе існаваць? І да чаго яно прывядзе; паўсюднага ўжывання расейскай ці беларускай мовы?

Так званая гарбачоўская перабудова дала людзям магчымасць самавыражэння. Самавыражэнне ў разнастайных сферах жыцця. Узнік моцны адраджэнцкі імпульс, яго падмуркам, вядома, была беларукая мова. Адзінага погляду на тое, якой быць мове не існавала нават сярод адраджэнцаў. Хтосьці з імпэтам прапаноўваў адразу перайсці на "тарашкевіцу", некаторыя радыкалы ўзнялі пытанне пераходу на ўжыванне лацінскага алфавіту. Найбольш памяркоўныя стаялі на правядзенне беларусізацыі, карыстаючыся "наркомаўкай".

Напрыканцы васьмідзесятых у перыядычных выданнях пачалі з'яўляцца артыкулы, як на расейскай, так і на беларускай мовах. Асабліва яскрава праявілася тое ў "Народнай газеце" якую рэдагаваў Іосіф Сярэдзіч. Выданне двухмоўнай газеты хутка стала нормай. Знайшліся прадаўжальнікі. І не толькі знакамітая апазіцыйная газета "Свабода" пайшла гэтым шляхам. Мясцовы, раённы друк у большасці сваёй быў беларускамоўны і ён таксама стаў прадаўжальнікам гэтага новаўвядзення. Усімі рэдактарамі і выдаўцамі кіраваў добры намер: павялічэнне накладу. Наколькі гэта новаўвядзенне дало павялічэнне накладу цяжка меркаваць. Папулярнасць той ці іншай газеты залежыць яшчэ і ад вастрыні ўздыманага пытання, тэмы, праблемы, яе актуальнасці, аб'ектыўнасці асвятлення; журналістцкага прафесіяналізму супрацоўнікаў рэдакцыі, нават асобы самога рэдактара.

Кола выданняў што працягваюць зараз выходзіць на беларускай мове значна звузілася. На сённяшні дзень гэта "Культура", "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Наша слова", "Пагоня" і некаторыя іншыя спецыялізаваныя выданні. З былых выданняў пад час гэтых новаператварэнняў не змяніла сваёй роднай беларускай мове газета "Звязда". Да яе палітычнай арыентацыі можна ставіцца па рознаму, толькі ў дадзеным выпадку на гэта не варта звяртаць увагі, бо існаванне розных палітычных думак — норма дэмакратычнай дзяржавы.

Акрамя таго неабходна звярнуць увагу і на інфармацыю, артыкулы, што месцяцца ў гэтых выданнях. Дзяржаўныя афіцыйныя паведамленні, як звычайна у двухмоўных выданнях друкуюцца на расейскай мове. Адначасова і раённыя газеты пасля рэферэндуму аб наданні расейскай мове роўных правоў з беларускай (чытай, замацаванні за расейскай мовай галоўных прыярытэтаў ва ўжыванні) сталі змяшчаць на сваіх старонках не толькі рэспубліканскі расейскамоўны афіцыёз, але і паведамленні мясцовай вертыкалі, у тым ліку і дробных райвыканкамаўскіх чыноўнікаў, якія заўжды былі каньюктуршчыкамі, выключна на расейскай мове. У некаторых пытаннях (тут можна спрачацца) — людзі не ведаюць беларускае мовы ці ведаюць яе дрэнна, але калі сустракаеш у цэнтральных, рэспубліканскіх выданнях расейскамоўныя артыкулы нашых цяперашніх адраджэнцаў, то дзіву даешся: ці то гэты адраджэнец ва ўгоду каму стаў пісаць па-расейску ці на тым настаяла рэдакцыя. А можа абодва хацелі дагадзіць чытачу.

Дарэчы, пра чытача. Пра яго трэба думаць, а не біць яму паклоны. Ён цудоўна разумее гутарку на роўных.

На заходніх абшарах Беларусі пасля вайны засталося шмат усходнікаў. Яны і ёсць прапаведнікамі расейскамоўя, але самае дзіўнае, што гэтыя людзі ў большасці сваёй з'яўляліся чытачамі той жа "Свабоды" у той час, калі яна выходзіла выключна на беларускай мове.

Як бы яно там не было, але газетнае двухмоўе, хочам мы таго ці не, падзяліла газетныя матэрыялы на палітычна-значныя і другарадныя. І ўсё гэта адпаведнае таму, як афіцыйныя ўлады ставяцца да раўнапрўя двух моваў.

І калі гэтая бязглуздзіца будзе працягвацца надалей, то можна з упэўненасцю сказаць, што гэтыя выданні на шляху, каб урэшце рэшт быць расейскамоўнымі.

*Язэп Палубятка.*

# Аб вывучэнні ў школе творчасці Васіля Быкава

У праграме сярэдняй школы вывучэнню яго твораў адведзена вялікае месца. Такі падыход апраўданы, бо з беларускіх пісьменнікаў яго найбольш чытаюць за мяжою, а творы перакладзены амаль на ўсе мовы свету. У 5 класе чытаюць апавяданне "Сваякі". У 6 - для чытання і вывучэння вызначана "Незагойная рана". У 7 — вывучаецца аповесць "Жураўліны крык", для чытання і абмеркавання прапануецца апавяданне "Страта", для пазакласнага чытання "Адна ноч", "На ўсходзе сонца", аповесць " Дажыць да світання". У 9 класе — аповесць "Аблава", для самастойнага чытання "Сотнікаў", для пазакласнага чытання "Круглянскі мост", а таксама біяграфія і агляд творчасці. У XI класе на працягу 4 гадзін вывучаюць аповесць "Знак бяды", біяграфію і агляд творчасці, для вывучэння па выбару настаўніка даюцца аповесці "У тумане", "Сцюжа".

Кнігі В.Быкава ў савецкі час выдаваліся вялікімі тыражамі, маюцца ў бібліятэках як дзяржаўных, так і ў многіх прыватных, таму ў старшакласнікаў ёсць магчымасць прачытаць многае з напісанага знакамітым празаікам. Але пры вывучэнні біяграфіі і агляду творчасці ў настаўнікаў узнікае праблема з вытлумачэннем яго поглядаў і пазіцыі ў грамадска-палітычным жыцці, узаемаадносін з цяперашняй уладай, прычыны выезду за мяжу. Аб гэтым гаварыў і А.Лукашэнка на сустрэчы з беларускімі літаратарамі. "На яго творах рос, я ўсе яго кнігі перачытаў. Яго пазіцыя адносна прэзідэнта Беларусі цалкам абсурдная. Я не разумею, за што ён на мяне накінуўся: "фашызм", "дыктатура" і іншае ... Але гэта таленавіты чалавек! ... Вялікі ..." (стэнаграма).

На маю думку, у дзеяннях і учынках В.Быкава зразумела ўсё, бо яны абумоўлены яго светапоглядам і маральнымі прынцыпамі. Яны пакладзены ў аснову ягоных твораў, у стварэнне вобразаў і раскрыццё характараў іх герояў найчасцей у трагічных абставінах і экстрэмальных умовах. Пісьменнік заўсёды трымаўся мастацкай праўды ў паказе вайны, не прыхарошваў рэчаіснасць, не хаваў і не ўтойваў адмоўных яе з'яў. Гэта і ў савецкі час прыводзіла да канфліктаў з уладамі, у выніку чаго аповесць "Мёртвым не баліць" была доўгі час пад забаронаю друкаваць. Але і камуністы лічыліся з яго вялікім талентам і сусветнай вядомасцю і неаднаразова ўзнагароджвалі.

Высокія маральныя якасці яго герояў, выпрабаванні іх крутымі жыццёвымі сітуацыямі паслужылі асновай яго ўласнага маральнага вырабу. І калі ў камуністычныя часы ніхто з нашых пісьменнікаў не падняўся да ўзроўню адкрытай барацьбы ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека, то гэта зрабіў у 90-я гады В.Быкаў. Ён смела і адкрыта назваў сапраўдным імем тую сітуацыю, якая ўзнікла ў нашым грамадстве ў сувязі з уладаю А. Лукашэнкі. Як усім вядома, у Беларусі ўстанавілася безгранічная ўлада аднаго чалавека. Наш прэзідэнт не толькі кіраўнік дзяржавы, але і паўнаўладны яе гаспадар, не абмежаваны ні людзьмі — усе яму падпарадкаваны, — ні законамі, бо іх стварае не толькі ім утвораны Нацыянальны сход, але і ён сам у выглядзе дэкрэтаў. Раней хоць якое было калектыўнае кіраўніцтва ў пануючай КПБ: тры сакратары, бюро, ЦК, пленумы. А цяпер і гэтага няма, бо ўся вышэйшая ўлада сканцэнтравана ў адных руках і выведзена з-пад кантролю. У свой час Н.К.Крупская на партз'ездзе ўзняла пытанне аб празмерна вялікай уладзе ў сакратарыяце ЦК ВКП(б) і аб падмене калектыўнасці аднаўладдзем. В. Куйбышаў ад імя ЦКК заверыў, што гарантам правільнасці прыманых рашэнняў служыць генеральны сакратар (Сталін). ("Маладосць" № 7, 1998г.). Такім гарантам у нас сёння з'яўляецца А.Р.Лукашэнка, што ў многіх грамадзян выклікае не без падстаў нязгоду і ўспрымаецца адмоўна.

Актыўны ўдзел В.Быкава ў стварэнні і працяглай рабоце БНФ таксама вытлумачальны і зразумелы, калі ўлічыць, што ён, як і многія прадстаўнікі беларускай эліты, цвёрда стаіць на нацыянальнай пазіцыі, якая патрабуе адданага служэння нацыянальнай ідэі, інтарэсам Бацькаўшчыны — Беларусі. Да такой высновы падводзіць уся ягоная творчасць. Не можа сам аўтар быць іншым, чым яго героі, не мае на гэта маральнага права. Таму не толькі на словах у сваіх кнігах, але і ў канкрэтных дзеяннях і ўчынках пісьменнік, "апостал нацыі" па словах Р. Барадуліна, стаў і паўтарае шлях сваіх лепшых герояў.

Настаўнікам на ўроках прыдзецца закрануць гэтыя пытанні, каб даць вучням праўдзівую, аб'ектыўную інфармацыю і веды.

**Міхась Пузіноўскі**
**г.Ашмяны.**



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 5-7, 12-15, 40-44)

***Друкавальная машынка — а не пішучая.*** Нашыя слоўнікі, механічна, без перакладу падаюць намінацыю: ***"пишущая машинка — пішучая машынка"*** (РБС-53. С.250). А вось дэфініцыя яе: ***"пішучая машынка — механізм з клавішамі для ручнога друкавання тэксту"*** (ТСБМ. Т.3. Мн., 1979. С.130). З гэтага тлумачэння натуральна вынікае — ***друкавальная машынка***, бо яна — для друкавання тэксту. Пра недарэчнасць ***"пішучая машынка"*** пісаў у "Нашым слове" У.Содаль. Былі прапановы даць гэтай прыладзе і назву ***машынапіска.*** Але матывацыя ў гэтым выпадку не зусім дакладная.

***Склеп і пограб.*** Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі слова ***пограб*** у беларускай частцы, а толькі ў расейскай. Так, "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мн., 1926. С.290) засведчыў: ***"Склеп м. — 1) склеп; 2) погреб, подвал"***. В. Ластоўскі падае: "***Погреб м. склеп, поднік, поруб"*** (ПРК(б) С. С.482). І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.-Крапівы і П.Глебкі (М., 1953.С.436) бачым: ***"Погреб — склеп, род. склепа м.; винный погреб — вінны склеп; пороховой погреб — парахавы склеп"***. Гэты слоўнікавы артыкул цалкам паўтораны і ў двухтомавым перавыданні слоўніка (РБС-82. С.84). У трохтомавым "Русско-белорусском словаре" 1993 года таксама бачым: ***"Погреб — склеп; винный погреб — вінны склеп; пороховой погреб — парахавы склеп; погребок — уменьш. скляпок"*** (Т.2.С. 577.578). У "Беларуска - рускім слоўніку" 1962 года слова ***пограб*** падаецца як ненарматыўнае, з адсылкаю да ***склепа.*** Гэты артыкул паўтораны ў двухтомавым перавыданні, дзе бачым: ***"Пограб см. склеп". "Склеп м. І. погреб; подвал, подполье ср.; вінны склеп — винный погреб; парахавы склеп — пороховой погреб; (погребальный) склеп"*** (БРС-89. С.472).

А вось тлумачальны слоўнік беларускай мовы" парушае згаданую лексічную норму, падаючы на сваіх старонках і гэтае вось — з расейскае мовы — ***пограб - "яма з крытым верхам і сценамі з бярвення, якая служыць для захавання бульбы, гародніны"*** (ТСБМ.Т.4. Мн., 1980.С. 285). Тут бачым ***пограб*** і з значэннем "ніжняя частка дома, падвал, дзе захоўваюцца прадукты". "Бульбу перанеслі ў сенцы, саставілі мяшкі наўкруг, над пограбам. Паўлаў".

Як бачым, слоўнік парушыў літаратурную норму. Новы Тлумачальны слоўнік 1996 года не падае гэтага слова, а толькі ***склеп*** (з абодвума значэннямі) (ТСБЛМ. С. 603).

Гэтае нормы і трэба пільнавацца, а не павялічваць абсяг трасянкі, як гэта робіць ТСБМ (Т. 4. С.285).

***Гэблік ( і гэбель) — а не рубанак.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1926. С.85) падае: ***"Гэбель м. — рубанок".*** Бачым гэтае слова і ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года (С.220): ***"Гэбель, род. гэбля м. рубанок; пасля гэбля тапаром — после рубанка топором".*** Двухтомавае перавыданне падае ўжо два словы: ***"Гэбель, род.гэбля м. рубанок; Гэблік м. рубанок"*** (БРС -88. С.342).

Ад слова ***гэбель*** у беларускай мове шмат вытворных, якія бачым на старонках слоўніка: ***"габлёваны, габлёўка, габлюшка, габляваны, габлявальшчык, габлявальшчыца, габляванне, габлявальны, габлявацца, габляваць".***

А вось слова ***рубанак*** з значэннем ***"гэблік, гэбель"***, якое падае "Русско-белорусский словарь" 1953 года і ўсе яго наступныя перавыданні, не маюць сваіх родзічаў. Для абазначэння дзеяння, інструментам выкарыстання якога ёсць гэбель (гэблік), натуральна ў беларускай мове выступае дзеяслоў, утвораны ад назоўніка ***гэбель — габл -яваць*** і вытворныя ад яго. А вось ад рубанак — іх няма. Дык навошта побач з словам **гэбель (гэблік) падаваць яшчэ рубанак?**

"Русско-белорусский словарь" 1953 года зусім не падае слова ***гэбель***, а толькі: ***"Рубанок — рубанак, -нка м."*** (С.596). Але ж на с.666 бачым: ***"Строгать (рубанком) габляваць".*** Слова ***гэбель*** слоўнік падае як эквівалент рас. ***струг.*** На с.667 чытаем: ***"Струг І техн. І. (инструмент для строгания) гебель, -бля м.; (нож с двумя ручками) струг".*** Аднак двухтомавае (РБС-82) і трохтомавае перавыданні (РБС-93) не пацвярджаюць гэтага. У іх слова ***струг*** маюць абедзве часткі слоўнікаў. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т.2. МН., 1978. С.102) даецца наступнае вызначэнне гэтаму інструменту: ***"Гэбель, -бля м. сталярны інструмент у выглядзе калодкі з клінам і шырокім лязом для стругання дрэва. Даніла Платонавіч нешта майстраваў — габляваў дошчачку ... на паліцы паблісквалі інструменты: гэблі, пілкі ... ". Гэблік. памянш. да гэбель; невялікі гэбель.***

Слову ***рубанак*** даецца наступнае вызначэнне: ***"Сталярны інструмент у выглядзе калодкі з шырокім жалезным лязом для стругання драўніны".*** Яго ёмаль цалкам перапісанае з слоўнікаў расейскае мовы, адкуль і механічна перанесенае ў беларускія слоўнікі. Але ж яно тут адзінотнае, не мае сваіх каранёў і вытворчых словаў. Тым часам, як ***гэблік (і гэбель)*** складае шматлікае лексічнае гняздо з выразна матываваным значэннем.

Так што ўсе падставы для выкарыстання як нарматыўнае лексічнае адзінкі мае толькі слова ***гэбель (і гэблік).***

***(Публікацыя гэтай працы Паўла Сцяцко закончана)***





# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЦАРКВЕ І ПАЛІТЫКА

На тэму мовы царквы я пісаў раней. Напрыклад, у "Царкоўным слове" (артыкул "Мова Царквы — дадзеная Богам мова", №5, 1997г.), у "Нашым слове" (артыкул "Беларускамоўнаму набажэнству быць!", 13 траўня 1998г.). І на першы і другі з гэтых артыкулаў, у тых жа газетах з'явіліся крытычныя артыкулы. Артыкулы на блізкую тэму ... Але якая вялікая розніца паміж імі! Хаця ў абодвух артыкулах, мая пазіцыя крытыкавалася і асабліва злосна ў першым. Крытыка маіх поглядаў, аднак не замінала аўтарам стаяць на дыяметральна процілеглых пазіцыях. Аналізуючы іх змест, я прыйшоў да далёка не новай высновы — царкоўная дзейнасць і ўсякая друкаваная на гэтую тэму прадукцыя, наўпрост звязаны з палітыкай. І як бы не адхрышчваліся ад палітыкі аўтары шматлікіх артыкулаў — іх пазіцыя ўсё роўна праявіцца.

Артыкул І. Кірылюк "Действительно ли существует проблема языка в церкви?" з'яўляецца спробай крытыкі маіх думак, выказаных раней у маім артыкуле ў "ЦС". Ужо ў першых радках артыкула І.Кірылюк ставіцца пад сумненне само існаванне праблемы мовы ў Царкве. Яна піша: "У них (прыхажан храмаў — А.А.) такой вопрос вызывает удивление и недоумение, потому что проблема языка, искуственно разжигаемая, существует не в реальной жизни ..." Вось так! І гэты пасаж я ўжо адрасую другому свайму апаненту — "процілегла691" — спадару А.Жукоўскаму з г.Гародня, артукул якога быў змешчаны ў газеце "Наша слова" пад назвай: "Бог чуе нас па-беларуску", дзе аўтар выказвае думку — беларусы павінны звяртацца да Бога на роднай мове.

Праблема мовы ў Царкве, безумоўна ёсць. Зразумела, прыхільнікаў Беларушчыны не шмат сярод прыхаджан, але ж іх не шмат і наогул у нашым дэнацыяналізаваным грамадстве. Аднак яны ёсць. І за іх трэба ваяваць. Ці не пра такіх сказана ў прытчы Хрыста пра авечак, з якіх адна прапала і павадыр кінуўшы астатніх 99, пайшоў яе шукаць. Ён пайшоў ратаваць тую, што заблудзілася. І Царква павінна змагацца за кожную з чалавечых душ і рабіць усё магчымае для душы свядомага беларуса, для задавальнення ягоных нацыянальных патрэб. І калі гэта вымагае дадатковых намаганняў, калі трэба пайсці на пэўную ломку стэрэтыпаў — у нашым выпадку пераходу ў богаслужэнні на беларускую мову, то гэтага не трэба пазбягаць, а ісці даяго насустрач з адкрытым сэрцам. Кожная "божая авечка" павінна быць вернутая ў свой статак. Але І.Кірылюк, безапеляцыйна ставячы заведама правакацыйнае пытанне ў загаловак артыкула, не аб ратунку душ думае, не евангельскімі катэгорыямі аперуе, а імкнецца выразіць палітычную пазіцыю пэўных шавіністычных антыбеларускіх колаў. Яна фактычна выказвае прарасейскую шавіністычную пазіцыю такіх адыёзных арганізацый як Славянскі Сабор "Белая Русь", ці Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі.

Пра неабходнасць выкарыстоўвання роднай мовы ў богаслужэнні гаварыў пад час літургіі ў царкве "Усіх беларускіх святых" 1 сакавіка 1992 г. мітрапаліт БАПЦ а.Мікалай. Ён казаў: "Наша беларуская мова — мова святая і ёй належыць святое месца ў Праваслаўнай Царкве".

У папярэднім маім артыкуле ў "ЦС" ўжо даваўся аналіз прыхільніцы вялікадзяржаўнай Расіі І.Кірылюк. Але хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. І.Кірылюк даволі шчыльна ўчапілася ў маё прызнанне, што "Я — нацыяналіст і гэтым ганаруся". Тут уся справа ў тым, як разумець слова нацыяналіст. У сваіх артыкулах на гэтую тэму ("ЛіМ", 23-08-96г., "Маладосць", № 4, 1997 г.) я даў сваё разуменне гэтага тэрміну, якое зводзіцца да наступнай фармулёўкі: "Нацыяналізм — гэта лепшая духоўная якасць асобы чалавека, гэта любоў да свайго народа і Айчыны, любоў да мовы свайго народа і яго гісторыі, змаганне за правы нацыі быць роўнай сярод роўных". Такое разуменне нацыяналізму не мае нічога агульнага з традыцыйным бальшавіцкім разуменнем, але сцвярджаецца ва ўсім свеце. І ўсведамленне сваёй належнасці да той часткі беларускага народа, што жыве ў адпаведнасці з гэтым тэзісам, напаўняе цябе адчуваннем гонару і разам з тым адказнасці, таму што ты не абдзелены Богам у нацыянальных пачуццях і прызваны служыць Яму, як прадстаўнік свайго народа. І гэта зусім не гардыня, як лічыць Кірылюк, цытуючы апостальскі Запавет "Бог гордым противится". Хаця літаральна некалькімі радкамі ніжэй яна зноў сама сабе супярэчачы піша: " ... всякому человеку естественно гордиться своим Отечеством".

Неразуменне сутнасці нацыянальнай ідэі, свядомае запалохванне чытача ўсім нацыянальным сустракаецца ў разгляданым артыкуле на кожным кроку. Напрыклад, яна піша (пра мяне): "верник — кому и чему — национальной идее или истине?", не разумеючы таго, што нацыянальная ідэя -- складовая, істотная частка ісціны. І зусім не "бессмыслица" спалучэнне слоў "праваслаўны нацыяналіст". Бо нацыяналіст - у свеце нашага зазумения - можа быць і праваслаўным, і каталікам, і атэістам. Аднак сваё апраўданне нацыяналізм знаходзіць толькі ў хрысціянстве, пра што і пісалі знакамітыя рэлігійныя філосафы М.Бярдзяеў, Н. Кляпенін, І.Ільін і іншыя. Больш падрабязную інфармацыю па гэтаму пытанню можна атрымаць з маіх артыкулаў у "ЛіМе" і "Маладосці".

І Кірылюк адкрыта выказвае сваю палітычную прыхільнасць цытуючы адрывак з "Определение Орхирейского Собора Русской Православной Церкви, дек. 1994г." наконт працы, якую праводзіць царква з "различными структурами Вооружённых Сил в области возрождения исторических традиций служения Отечеству ...".

Зразумела, якое "Отечество" маецца на ўвазе — "Великая Россия", дзе Беларусі, як краіне месца няма. Нам добра вядомыя шавіністычныя расейскія партыі тыпу "Русского национального единства (РНЕ)", ды ЛДПР Жырыноўскага, якія не лічаць за краіны ні Беларусь, ні Украіну і марацаь ні больш ні менш, як да пашырэння межаў Расіі да Індыйскага Акіяну.

Як так можна ненавідзець Беларусь, краіну ў якой жыве і таварыш І. Кірылюк, калі сапраўды патрыётаў, маладых нашых адраджэнцаў, такіх як Северынец і Шыдлоўскі, трапіўшы за свае погляды ў турму, — называць "беларускімі нацы". І зусім ужо агідным з'яўляецца цытаванне ніколі не існаваўшага лозунгу: "Жыве Беларусь! Смерць маскалям!" Два гэтыя воклічы ніколі не стаялі побач, і калі першы - "Жыве Беларусь" — гэта гістарычны лозунг, святыня для кожнага беларускага патрыёта, то другі — гэта словы ніколі не гучаўшыя на Беларусі, а пачуць іх можна хіба што толькі з вуснаў якой небудзь п'янай шпаны.

Прывяду яшчэ адзін прыклад "вялікай любові" аўтаркі артыкула да Беларусі. Адчуваецца, што словы "нацыянальная свядомасць" настолькі брыдкія для спадарыні І.Кірылюк, што яна выкарыстоўвае іх ня інакш, як у двухкоссях.

Мяркую, што ўжо дастаткова ўвагі гэтаму артыкулу. Скажу на заканчэнне апошняе — брудная лаянка, частку якой я прывёў, вядзецца аж на трох старонках газеты.

Аднак і не ўва ўсіх адраджэнцаў знайшлі падтрымку мае думкі. Аказваецца не задаволілі найбольш нецярплівых з нашых свядомых беларусаў мае аргументы адносна цяжкасцяў пераходу ад служэння ў царкве на царкоўнаславянскай мове на беларускую. Спадар А.Жукоўскі з г. Гародні з іроніяй піша: "Хочацца сказаць нашым бедным святарам: Бог з вамі. Няхай ужо застаецца як ёсць, калі гэта так цяжка." ("Наша слова", № 18, 1998г.), і прыводзіць далей прыклад правядзення імшы па-беларуску ў гарадзенскім касцёле. Незразумелай застаецца толькі адна акалічнасць: калі сп. А. Жукоўскі дбае аб беларускамоўным праваслаўным богаслужэнні, то чаму тады ён заказвае імшу ў касцёле?.

І па -другое. З вялікай нацяжкай можна назваць так званую беларускую мову ў касцёле беларускай. Бо звычайна светары - наколькі мне даводзілася слухаць - праводзяць імшу з такім моцным польскім акцэнтам, што мову хутчэй можна назваць польскай з беларускай лексікай. Падкрэслю ў сувязі з гэтым такую думку. Імкненне да пераходу ў касцёлах на беларускую мову выклікана зусім не любоўю ксяндзоў да беларусаў. А абумоўлена чыста палітычнай кан'юктурай — імкненнем дагадзіць самым "нецярплівым адраджэнцам", задаволіць іх амбіцыі, і як галоўны вынік — зацягнуць у касцёл. І для іх не важна, што за вернік прыбыў... Для іх галоўнае не Вера і не тое, як уяўляе сабе чалавек Бога і наколькі ён аддана служыць Хрысту, а істотны толькі факт прыналежнасці да касцёла. У гэтым праяўляецца адвечная прага каталікаў да экспансіі, да ўцягнення ў сваё лона "усіх і ўся". У праваслаўі не так. Праваслаўе — глыбінная вера, ёй ужо два тысячагоддзі і яна ўвабрала ў сябе вялізны пласт духоўнасці розных народаў і розных часоў. І стаць праваслаўным, толькі пераступіўшы парог храма, яшчэ далёка не дастаткова. Гэта доўгі працэс, які вымагае ад чалавека вялікага цярпення, працы. Таму і пераклады Святога Пісання, што вядуцца пастаянна, не проста праца. Напрыклад, цяпер існуе два пераклады на беларускую мову "Новага Запавету" — канадскі і наш, зроблены Васілём Сёмухай. Але ніводзін з іх нельга назваць дастаткова дасканалым. Цяпер вядзецца новы, трэці пераклад Біблейскай камісіяй, якая выкарыстоўваючы досвед папярэднікаў, імкнецца пазбегнуць іх памылак.

Як мы адзначалі - палітычны фактар - важны элемент у працы касцёла. Але было б не шчырым, калі абыйсці палітычны фактар у праваслаўнай царкве. І гэта мы ўжо бачылі з аналізе артыкула спадарыні І. Кірылюк. У тым жа Свята-Пятра-Паўлаўскім Саборы далёка не ўсе святары, як згаданы айцец Георгій прыхільна ставяцца да беларускай мовы. Ёсць і такія святары, што шчыра вераць ідэёлагам вялікадзяржаўнага праваслаўя і рух за нацыянальнае адраджэнне ў Царкве лічаць непатрэбным. Але таксама вынік шматгадовага ідэалагічнага прэсінгу Масквы. Адным словам, у Царкве, як і ў грамадстве адлюстраваны розныя палітычныя плыні.



Не трэба думаць, што ўзнікшая рэлігійная сітуацыя ў нашай пакутнай Беларусі нейкая асаблівая. Палітычны фактар прысутнічае і прысутнічаў усюды і заўсёды. Так, у суседняй нам Украіне — нядаўна я сам наведаў гэты край — маецца аж тры розныя царкоўныя арганізацыі, кожная з іх праваслаўная. Гэта: Украінская праваслаўная царква маскоўскага патрыярхату, Украінская аўтакефальная праваслаўная царква кіеўскага патрыярхату, замежная аўтакефальная украінская праваслаўная царква. Паміж імі ідзе безупынная барацьба і пакуль не відаць аніякага прасвету. Вось дзе праблема!

Безумоўна царкоўная нестабільнасць і непаразуменне — вынік агульнага палітычнага крызісу. У краін з больш-менш стабільнай сітуацыяй у грамадстве нармалізуецца і царкоўнае жыццё. Напрыклад, у Германіі прыкладна палова каталікаў і палова пратэстантаў, але паміж імі вядзецца вялікая талерантнасць. Вядома, што ў гісторыі не заўсёды было так. Бывала вельмі змрорчна і, нават, трагічна. Успомнім, напрыклад, знакамітую Варфаламееўскую ноч...

Яшчэ некалькі слоў па артыкулу А.Жукоўскага. Ён прыводзіць заезджаны тэзіс аб тым, што ў праваслаўнай царкве "рэлігія ўсё яшчэ інструмент русіфікацыі і дэнацыяналізацыі беларусаў". Так сказаць можа толькі чалавек ніколі не бываўшы ў праваслаўных храмах на набажэнствах, ці не адчуваючы іх сэнсу. Царкоўная служба — гэта працэс размовы са Спасам, гэта ўдзел у Еўхарысты — галоўным таінстве Хрыстовай Царквы, гэта зліццё з Богам. І гаварыць пра нейкі "інструмент русіфікацыі" ў такіх абставінах проста бязглуздзіца. Але ўсё нашае штодзённае жыццё — гэта асяроддзе таталітарнай русіфікацыі. Вось дзе трагедыя! Усе сродкі масавай інфармацыі: радыё, тэлебачанне, шматлікія газеты і часопісы — магутнейшая зброя дзяржаўнай беларускай палітыкі на русіфікацыю беларускага народа, на вынішчэнне ўсяго беларускага. Нядаўна, напрыклад, на сваім лецішчы мне даводзілася часам слухаць розныя радыёперадачы. Ёсць такая маскоўская перадача "Радыё-1". Туды можна непасрэдна патэлефанаваць і заказаць сваю любімую мелодыю. І хто туды тэлефануе? Акрамя расейскіх слухачоў, гэта амаль праз адзін званок - беларусы: і з Менска і з Гомеля і з іншых гарадоў і вёсак. Ніводнага званка не было з Украіны і тым больш з Прыбалтыкі. Аб чым гэта гаварыць? Аб тым, што жыхарам гэтых краін няма патрэбы слухаць расейскае радыё — іх задавальняе нацыянальнае радыё, ім патрэбна свая культура, свае песні і свае выканаўцы.

І яшчэ. У сваім артыкуле А.Жукоўскі выказвае пажаданне аб пераносе "эксперыменту" з беларускамоўным акафісам на іншы час. Дык вось, гэта ніякі не эксперымент, а звычайнае набажэнства, якое існуе з адкрыцця храма і апошні час вядзецца ў беларускай мове і 17 гадзін — час устаноўлены не прыхаджанамі а распарадак самой Епархіі.

У тым жа "Нашым слове" (№ 18, 1998г.) змешчаны таксама артыкул Мускага Барыса, дзе ён выступае з прапановай да праваслаўнага Брацтва далучыцца да ўшанавання памяці Ларысы Геніюш. Мушу паведаміць, што менавіта Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў і праводзіць гэтае мерапрыемства кожны год у Свята-Пятра-Паўлаўскім храме. Дарэчы, растлумачу чаму я пішу "мучанікаў", а не "пакутнікаў". Рэдакцыя "НС" зрабіла пераклад гэтага слова, што не правамерна. Справа ў тым, што слова "мучанік" у царкоўным сэнсе, гэта не "пакутнік". "Мучанік" значыць "сведка". І віленскія хрысціяне Антоній, Іаан і Еўстафій былі менавіта сведкамі Ісціны - Хрыста, за што і прынялі мучаніцкую смерць.

Вяртаючыся да пачатку свайго артыкула хочацца зноў пажадаць нашым грамадзянам: людзі будзьце цярпімымі адзін да аднаго, паважайце погляды іншых і асабліва будзьце далікатнымі ў царкоўных пытаннях. Гэта тычыцца і мяне самога, як і любога чалавека. Аднак, збоку заўсёды відней — перагну ў я тут рамку прыстойнасці, ці не.

*Анатоль Астапенка.*

*В. Саітава*

# Краязнаўчая работа ў Лідзе

**(Заканчэнне. Пачатак у № 44)**

У раздзеле "Бібліяграфія" друкаваліся рэцэнзіі, рэкамендацыйныя анатацыі, агляды, водгукі на новыя кнігі і перыёдыку, што мелі навуковую і пазнавальную цікавасць для чытачоў "Лідскай зямлі". Рэдакцыя ўважліва сачыла за новай літаратурай пра Лідчыну і суседнія мясцовасці. Узровень ацэнак быў вельмі высокім і аб'ектыўным. Так, аўтар агляду "Запісак Беларускага навуковага таварыства" (Вільня, 1938г.) вельмі трапна звярнуў увагу на псеўдабеларускую мову аўтараў некаторых артыкулаў зборніка і раіў ім звяртацца да выдадзеных актаў Літоўскай метрыкі — "сапраўднай скарбніцы фанэтыкі, марфалогіі і слоўніка беларускага". Вельмі добразычліва аўтар агляду выказаў спадзяванне, што карысная навуковая праца Беларускага навуковага таварыства будзе працягвацца.

У апошніх гадавых нумарах змяшчаліся паказальнікі зместу часопіса. Асобныя раздзелы яго ўтваралі пералік артыкулаў, матэрыялаў гадавой хронікі, прац, разгледжаных у бібліяграфічным раздзеле, спіс ілюстрацый. Матэрыял у кожным раздзеле паказальніка адлюстроўваўся вычарпальна, гэта добра спрыяла больш хуткаму і поўнаму выяўленню неабходнай чытачу інфармацыі.

Бібліяграфічны характар меў таксама раздзел "Кнігі, прысланыя да рэдакцыі", у якім змяшчалася бібліяграфічнае апісанне твораў друку, маючых краязнаўчы змест.

Часопіс меў добрае паліграфічнае афармленне, вялікі фармат і змяшчаў каштоўныя і цікавыя ілюстрацыі. Гэта былі фотаздымкі герояў артыкулаў, памятных мясцін і прадметаў, ілюстрацыі з карцін і другія матэрыялы. Рэдакцыя імкнулася прадставіць чытачам асабліва каштоўныя, рэдкія ілюстратыўныя матэрыялы. Напрыклад, у 1938 г. у часопісе было надрукавана 57 артыкулаў і змешчана 34 ілюстрацыі. У трывожным 1939 г. фармат часопіса паменшыўся, нумар шосты за чэрвень быў апошнім (па звестках Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі).


ZIEMIA LIDZKA
Nr 2-3 (30-31) Lida, marzec - czerwiec 1998 r.
Moje lidzkie Wielkanoce
Dużo łask Zmartwychwstałego Chrystusa dla Czytelników "Ziemi Lidzkiej" rozsianych po całym świecie życzy Redakcja

**Часопіс "Лідская зямля" 1998г.**

Часопіс "Лідская зямял" быў папулярным сярод мясцовага насельніцтва. Ён спрыяў абуджэнню пачуццяў любві да роднай зямлі, імкнення ведаць яе і зыскаў павагу і высокую ацэнку, як лепшы краязнаўчы часопіс у Заходняй Беларусі і нават у Польшчы. Заслуга часопіса была і ў згуртаванні мясцовай інтэлігенцыі і прыцягненні яе ўвагі да даследвання роднага краю. У Лідзе выходзілі кнігі і перыядычныя выданні, напрыклад, у 1938 г. выйшлі два нумары перыядычнага выдання, прысвечанага паэзіі і народнай літаратуры "Лірнік вясковы", заснавана "Газета лідска". Рэдакцыя часопіса выдала таксама шэраг кніг пра лідчыну: Ю. Дзічканец "Самаабарона зямлі лідскай", А.Сняжко "Касцёл фарны ў Міры" і іншыя. У № 6 за 1939 год на 4-й старонцы вокладкі змешчана бібліяграфічная інфармацыя пра 6 выдадзеных на базе часопіса краязнаўчых кніг. У 1938 г. моладзь другога класа дзяржаўнай гімназіі імя гетмана К. Хадкевіча пад кіраўніцтвам настаўніцы Юзэфы Клейндэнстовай правяла з вялікім поспехам краязнаўчую вечарыну. Рыхтуючы мерапрыемства вучні сабралі шмат матэрыяла пра бытавыя звычаі і абрады сельскіх жыхароў, выкарысталі этнаграфічныя артыкулы М.Шымелевіча з часопіса "Лідская зямля". У інфармацыі пра вечарыну асабліва падкрэслівалася, як ўдала спявалі "артысты" беларускія песні. Не выпадкова 28 траўня 1939 г. у Лідзе ўрачыста адкрыўся музейны асяродак аддзела Польскага краязнаўчага таварыства, які разглядаўся, як зачатак будучага музея лідскай зямлі. Аб часопісе пісалі ў другіх перыядычных выданнях, паведамлялі па радыё ў Вільні і Баранавічах. Значэнне "Лідскай зямлі" чуйна выразіў вядомы спецыяліст па краязнаўству прафесар Віленскага ўніверсітэту М.Ліманоўскі, напісаўшы, што часопіс "спрабуе адваліць магільную пліту забыцця з лідскай зямлі і на свет дзенны дастаць багацці гэтай зямлі".

Сёння азнаямленне з матэрыяламі "Лідскай зямлі" дастравіць нямала хвалюючых уражанняў і багата цікавейшай інфармацыі усім, хто імкнецца паглыбіць свае веды пра Лідчыну і Наваградчыну. На жаль, у буйнейшых бібліятэках Менска няма поўнага камплекту гэтага выдатнага часопіса. Магчыма бібліятэкары і краязнаўцы Ліды і Наваградка здолелі сабраць яго выпускі як каштоўнай крыніцы краязнаўчай інфармацыі.

*Па старонках нашай гісторыі*

# Не забывалі мовы беларускай

У маёй хатняй бібліятэцы ёсць надзвычай цікавая і карысная кніжка — "Беларускі каляндар на 1928 год", выдадзеная Таварыствам беларускай школы ў Вільні.

"Каляндар" складаецца з некалькіх раздзелаў. Але найбольш каштоўным у пазнавальных адносінах, гістарычным плане, на мой погляд, з'яўляецца з іх той, дзе вядзецца падрабязны аповед пра дзейнасць Таварыства беларускай школы.

Як сцвярджаецца ў "Календары", ТБШ было заснавана ў 1921 годзе ў Вільні, і дзейнасць яго абмяжоўвалася Віленскім ваяводствам. Але ў 1926 годзе быў прыняты новы статут, і дзейнасць Таварыства пашырылася на ўсю Польшчу. Дарэчы, тут змешчана 20 фотаздымкаў з жыцця ТБШ на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі.

ТБШ ставіла адну мэту: пашырыць асвету беларускага народа на яго роднай мове праз школьную сістэму і пазакласную работу. Гэта значыць, адкрываць беларускія пачатковыя і сярэднія школы, а "калі дазволяць варункі, то і вышэйшыя навучальныя установы". І гэта не выпадкова, бо ва ўсёй Заходняй Беларусі на 1927 год засталося ўсяго па адной беларускай школе ў Віленскім, Наваградскім і Беластоцкім ваяводстве. Тады як у1919- 1921 гадах у адным толькі Віленскім ваяводстве налічвалася за 200 беларускіх пачатковых школ.

З сярэдніх навучальных устаноў на 1927 год у былой Заходняй Беларусі працавалі ўсяго толькі чатыры прыватныя беларускія гімназіі — Віленская, Радашковіцкая, Наваградская і Клецкая. За гады свайго свайго існавання ўсе яны разам далі сярэднюю адукацыю 387 чалавекам.

Адкрыццё прыватных беларускіх школ было вельмі цяжкай справай. Па-першае, не хапала матэрыяльных сродкаў. Па-другое, іх адкрыццю не хацелі спрыяць улады. Наадварот, стараліся ўсяляк перашкаджаць, прыдзірліва ставіліся да настўніцкай кваліфікацыі, надабранадзейнасці і г.д. Беларусы ж, жадаючы даць сваім дзецям адукацыю на роднай мове, пачалі без дазволу ўладаў адчыняць пачатковыя прыватныя беларускія школы. "Але жыццё іх было вельмі кароткае: улады пазачынялі іх як не законныя", — гаворыцца ў дакуменце - кніжцы.

Урэшце-рэшт пад уздзеянем нродных мас улады Польшчы вымушаны былі прыняць у ліпені 1924 года Закон, у адпведнасці з якім давалася права дамагацца адкрыцця беларускіх дзяржаўных школ шляхам складання школьных дэкларцый. Аднак, нягледзячы на падрыхтаваныя дэкларацыі, улады не адчынілі ніводнай беларускай школы на працягу трох гадоў - з 1924 па 1926 год. І ўсё ж лёд рушыў пад націскам беларусаў, якія праглі мець родную школу: 1927 - 1928 навучальным годзе толькі ў Віленскай і Палескай школьных акругах было адчынена дзевятнаццаць беларускіх урадавых школ. З іх адзінаццаць - у былым Віленскім павеце.

Разам з беларускімі былі адчынены і польска-беларускія школы. На жаль, як сведчыць "Каляндар", у гэтых нямногіх беларускіх школах настаўнікамі заставаліся палякі, якія нярэдка зусім ня ведалі беларускай мовы, тады як сапраўдных беларускіх настаўнікаў, з высокай кваліфікацыяй, прымушаллі працаваць у польскіх школах і небеларускіх мясцовасцях.

ТБШ імкнулася развіваць нацыянальную самасвядомасць, пашыраць асвету таксама праз стварэнне і арганізацыю гурткоў Таварыства і акружных упраў, якія павінны былі абараняць правы беларусаў, іх інтарэсы, яднаць прыхільнікаў і сяброў. З іх дапамогай ствараліся хоры, аркестры, адчыняліся бібліятэкі-чытальні, народныя дамы, ладзіліся спектаклі, працавалі курсы. У выніку да ліпеня 1927 года ТБШ былі адчынены 134 бібліятэкі-чытальні і 41 народны дом.

Сродкі на набыццё кніжак, выпіску газет здабываць было вельмі цяжка. Даводзілася шукаць дапамогі ў братоў-беларусаў, што жылі ў Амерыцы ці збіраць ахвяраванні. Аднак, каб сабраць ахвяраванні, патрэбна было атрымаць дазвол ад старасты, што не заўсёды ўдавалася зрабіць. На пастаноўку спектакляў таксама трэба было атрымаць дазвол ад мясцовай улады. Да таго ж, кожная п'еса падлягала строгай цэнзуры з боку ўлад.

І ўсё ж, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, ТБШ было даволі паважанай ў народзе арганізацыяй, якая да канца 1927 года налічвала звыш дзесяці тысяч чалавек, аб'яднаных у 385 гуртах.

*І. Говар, г. Іўе*

# Аповесць пра словы

## Мядзведзь і мішка

Гэтыя два словы ўжываюцца ў беларускай мове паралельна, як і ў расейскай. Мядзведзь , мядзведзік, медзведзеня, Мішка, Мішутка, Міхаіл Патапыч. Цукеркі "Мішка на поўначы".

Дык як здарылася што мядзведзь атрымаў такое імя. Ці ўсё заключаецца ў тым, што словы ***мядзведзь*** і ***Мішка*** пачынаюцца з адной літары, ці гэта прыдумка казачнікаў? Адказ хаваецца, як заўжды на паверхні.

Дзесьці ў пачатку нашай бясконцай "Аповесці пра словы" мы ўжо згадвалі, што першапачатковая назва тога звера, якога мы зараз называем мядзведзем у многіх індаеўрапейскіх мовах гучыць як ***"бэр"***. Гэтае слова захавалася ў нямецкай мове. Нам засталося слова "бярлога" — логава мядзведзя.

Мядзведзь быў для старажытных людзей надзвычай страшным зверам, асабліва пячорны, які мог расправіцца з цэлым родам. Лішні раз называць яго імя проста было табу, забарона, як зараз не прынята лішні раз згадваць нячыстую сілу. Таму слова "бэр" замянялі рознымі іншамаўленнямі, якімі можна было даць зразумець пра каго ідзе гаворка, але само імя не вымаўлялася. Старажытны чалавек цвёрда верыў, што так ён абяражэцца ад злога духа. Славяне ўтварылі назву звера ад яго выключнай асаблівасці — любові да мёду. Той хто ведае мёд — мядзведзь. Гэтая назва добра захавалася ў беларускай і расейскай мовах. У польскай мове гэтае слова ўжо відазмянілася ў ***niedzwiedz.*** Амаль захаваўшы гучанне, слова страціла сваю сэнсавую нагрузку, бо мёд і ў польскай мове ***miod.***



І вось час падысці да слова ***мішка***. Але пойдзем мы да гэтага слова не праз санскрыт, як , напэўна, чакае сталы чытач "Аповесці пра словы", а праз мову значна больш блізкую. На летувіскай мове мядзведзь у адным з маўленняў гучыць, як ***мэшка (meska)***. Ёсць у летувісаў і іншая назва для гэтага звера: ***lokis (локіс)***. На нейкім этапе балта-славянскіх кантактаў славянам аказалася недастатковым для ***бэра*** мець адну назву ***мядзведзь*** і яны запазычылі балцкае ***мэшка***. І вось гэты ***бэр*** пад назвай ***мядзведзь -мэшка*** і стаў ***мядзведзем -мішкай***. Гэтага ***мішку*** і запазычылі ў нас расейцы. У Расеі гэтае слова стала чуць не асноўным найменнем мядзведзя. А можа не мы ў балтаў, а яны ў нас запазычылі гэтае слова і ўжо з ***мішкі*** зрабілі ***мэшку***? Так не атрымоўваецца. Слова ***мішка*** ў славянскіх мовах, прынамсі ў беларускай і расейскай не з'яўляецца прадукцыйным. Яно не стварае гнязда словаў. Утой жа час у летувіскай мове мы маем ***мэшкінінкас - мядзвядзятнік, мэшкюкас - мядзведзяня, мэшкервірвэ - лясы, мэшкенас - янот***. На гэтым можна было б і скончыць, але слова, як тая сцяжынка ў лесе, віляе, віляе і адкрывае ўсё новыя і новыя краявіды. Светлай памяці Іван Ласкоў даследуючы тапаніміку і асабліва гідраніміку Беларусі даволі пераканаўча паказаў, што часціца -ва ў гэтых тапонімах абазначае ***вада, рака*** і па-паходжанні належыць да вугра-фінскай моўнай групы. Правядзём невялічкі эксперымент. Возьмем нашага ***мэшку*** без канчатка і дадамо гэтае ***-ва***. Што атрымалася? ***Мэшк+ва=Мэшква***. Нічога не нагадвае? Безумоўна, атрымалася ***Масква***, над разгадкай паходжання назвы якой б'ецца не адно пакаленне даследчыкаў. А разам з тым існуе старажытная легенда, што назва ***Масквы-ракі*** абазначае ***мядзведзіца***. Як бачым, усё кладзецца адно да аднаго. Угэтым артыкуле мы не высветлім да канца паходжанне гэтага ***мэшкі***: балцкае яно, вугра-фінскае ці яшчэ чыё, але з паходжаннем слова ***мішка*** ўсё ясна. Гэта не ўласнае імя мядзведзя, гэта сінонім слова ***мядзведзь***.

*Станіслаў Суднік.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 16. 11. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2574.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.